№ 5

25 ВЕРАСНЯ

1935 г.

# Метадычны лісток

## У дапамогу школе

= Выходзіць 2 разы ў месяц. =

ЗМЕСТ:



ВЫДАННЕ ВІЦЕБСКАГА ПЕДАГАГІЧНАГА ІНСТЫТУТА імя С. М. КІРАВА.

# Аб арганізацыі вучэбнай работы і ўнутранным распарадку ў пачатковай, няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школе

## Пастанова Совета Народных Камісараў Саюза СССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)

Совет Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) у радзе сваіх пастаноў аб школе прапанавалі наркаматам асветы ўстанавіць адзіную арганізацыйную структуру школы, умацаваць парадак і дысцыпліну сярод вучнёўства, чотка арганізаваць увесь ход вучэбнай работы і забяспечыць аператыўнае, канкрэтнае і дыферэнцыяванае кіраўніцтва кожнай школай.

Наркомасветы РСФСР, а таксама наркаматы асветы другіх саюзных рэспублік да гэтага часу нездавальняюча выконвалі гэтыя важнейшыя дырэктывы партыі і ўрада. Устаноўленыя СНК СССР і ЦК ВКП(б) тры тыпы школ (пачатковая, няпоўная сярэдняя і сярэдняя) падмяняюцца ў радзе выпадкаў „ступенямі“ і „канцэнтрамі“. Вучэбныя планы і праграмы падвяргаюцца штогоднім зменам, чым парушаецца ўстойлівасць і сістэматычнасць прахаджэння асноў навук у школе. Усё гэта цягне за сабой дэзарганізацыю вучэбнай работы, дэзарыентуе настаўніка, з прычыны чаго веды вучняў астаюцца ўсё яшчэ нездавальняючымі, а канчаючыя школу выяўляюць недастатковую падрыхтоўку для прахаджэння навук у вышэйшай школе.

Пры арганізацыі вучэбнай работы вучні празмерна перагружаюцца класнымі заняткамі (6-7 урокаў у дзень), у асобныя дні школьнага тыдня расклады класных урокаў перагружаны труднымі для ўсваення прадметамі.

Устаноўленая наркаматамі асветы сістэма ацэнкі паспяховасці вучняў не дае ўяўлення аб фактычных ведах вучня і вядзе на практыцы да паніжэння ўзроўню вучобы.

Наркаматамі асветы да гэтага часу не выданы правілы паводзін вучняў у школе і па-за школай, не выпрацаван таксама і нармальны школьны статут, які павінен вызначаць цвёрды ўнутраны распарадак у школе і з'яўляцца кіраўніцтвам для адміністрацыі школы, педагогаў, школьных арганізацый і вучнёўства.

Нездавальняюча арганізаваны прыём дзяцей у школу, перавод вучняў з класа ў клас і іх выпуск. Устаноўленыя наркаматамі асветы патрабаванні пры прыёме ў школы шматлікіх дакументаў ствараюць непатрэбныя затрудненні для паступлення дзяцей у школу. „Індывідуальныя апытальнікі“, якія загадзя ўстанаўляюць пытанні, на якія павінен адказваць вучань пры іспытах, прыводзяць на практыцы к зніжэнню значэння іспытаў і не даюць належнага ўяўлення аб сапраўдных ведах вучняў.

Наркаматамі асветы і іх мясцовымі органамі, а таксама дырэктарамі (загадчыкамі) школ не прыняты да гэтага часу меры к устанаўленню ў школах чыстаты і знешняга парадку, якія з'яўляюцца адным з важнейшых сродкаў выхавання культурных навыкаў у вучняў.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) адзначаюць, што ўказаныя недахопы ў вучэбнай рабоце школы сведчаць аб няпоўным разуменні наркаматамі асветы важнейшых пытанняў арганізацыі і ўмацавання школы, што з'яўляецца вынікам нязжытай яшчэ да канца сярод значнай часткі работнікаў народнай асветы глупай антыленінскай тэорыі „адмірання школы“.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) пастанаўляюць:

### 1. Аб арганізацыі вучэбнага года і школьнага рэжыму

1. Устанавіць ва ўсіх школах СССР пачатак вучэбных заняткаў з 1 верасня і скančэнне іх—у першых трох класах—1 чэрвеня, у 4—7 класах—10 чэрвеня і 8—10 класах—20 чэрвеня, зімнія

канікулы—з 30 снежня па 10 студзеня, веснавыя—на працягу шасці дзен.

2. Вызначыць з 1935—1936 вучэбнага года колькасць штодзённых класных урокаў: у першых чатырох класах—4 урокі ў дзень (у чацвёртых класах дапускаць два дні ў тыдзень па 5 урокаў); у пятых—дзесятых класах—5 урокаў (і два дні ў тыдзень па 6 урокаў). Дадатковыя ўрокі адводзіць толькі для заняткаў па працы, спевах, рысаванню, чарчэнню і фізічнай культуры.

У саюзных (апрача РСФСР) і аўтаномных рэспубліках, а таксама ў нярускіх школах РСФСР дапусціць, пачынаючы з 5 класа, яшчэ адзін шосты ўрок у тыдзень для дадатковага вывучэння рускай мовы і літаратуры.

Даручыць наркаматам асветы саюзных рэспублік па ўзгадненню з аддзелам школ ЦК ВКП(б) зацвердзіць адзіныя для ўсіх школ СССР вучэбныя планы.

Працяг урокаў у гарадскіх і сельскіх школах устанавіць у 45 мінут. Устанавіць працяг перапынкаў: першага, трэцяга і чацвёртага—у 10 мін., другога—у 30 мінут, дапускаючы ў паасобных выпадках працяг другога і трэцяга перапынкаў у 20 мінут.

3. Устанавіць наступны парадак прыёму вучняў:

Прыём заяў аб залічэнні дзяцей у школы рабіць з 1 чэрвеня па 1 жніўня, а залічэнне—з 10 па 25 жніўня. Вучні павінны, як правіла, прымацца ў тую школу, якая знаходзіцца блізка ад месца пражывання бацькоў.

Абавязаць дырэктароў (загадчыкаў) школ забяспечыць уважлівыя і чулыя адносіны да бацькоў і дзіцяці, асабіста прымаць ад бацькоў дакументы, высвятляць шляхам гутаркі з паступаючым у школу неабходныя даныя аб ім (узровень развіцця, стан здароўя і т. д.).

Забараніць трэбаваць ад бацькоў прадстаўлення ў школу дакументаў і даведак, апрача ўстаноўленых законам (заява аб прыёме ў школу, дакумент аб узросце дзіцяці і даведка аб прышчэпцы воспы).

Наркаматам асветы і іх мясцовым органам, на падставе закона аб усеагульным абавязковым навучанні, прыцягваць да матэрыяльнай адказнасці бацькоў ці асоб, якія адказваюць за выхаванне дзяцей, за нясвоечасовую і спозненую пасылку дзяцей у школу без уважлівых прычын.

Залічэнне дзяцей у школу пасля пачатку вучэбнага года дапускаць толькі ў выключных выпадках (перавод бацькоў па рабоце з горада ў горад).

Восьмыя класы сярэдніх школ камплектаваць, як правіла, са скончыўшых сёмыя класы гэтых школ, выдзяляючы ў восьмых класах да 15 проц. месц для вучняў другіх школ.

5. Вучняў, якія пераходзяць з адной школы ў другую, прымаць у адпаведны клас без іспытаў. Прадаставіць права дырэктару (загадчыку) школы перавадзіць паступіўшага з другой школы вучня ў ніжэйшы клас, калі на працягу месяца з дня паступлення высніцца, што ён па ўзроўню ведаў не адпавядае патрабаванням праграмы данага класа.

6. Спыніць існуючую няправільную практыку „індывідуальных пытальнікаў“, пры якой настаўнік загадзя намячае асобна для кожнага вучня пытанні, адпаведна падрыхтоўваючы вучня да адказаў на гэтыя пытанні. Пры правядзенні выпускных і пераводных іспытаў забяспечыць праверку ведаў вучняў па розных раздзелах праграмы.

Тэмы для пісьмовых работ па роднай мове і матэматыцы пры выпускных іспытах у сярэдняй школе ўстанаўляюцца краявымі і абласнымі (у буйных гарадах—гарадскімі) аддзеламі народнай асветы і загадзя паведамляюцца дырэктарам школ. Дырэктары школ паведамляюць гэтыя тэмы выкладчыкам у дзень іспытаў.

7. Вучням, паспяхова скончыўшым сярэднюю школу, выдаваць атэстат з уключэннем у яго адзнак па ўсіх прадметах. Пры пераводзе з класа ў клас выдаваць вучням пераводнае пасведчанне з указаннем адзнак аб паспяховасці і паводзінах. Найбольш паспяхова здаўшых выпускныя і пераводныя іспыты ўзнагароджваць пахвальнымі граматамі. Скончыўшым сярэднюю школу і маючым па асноўных прадметах адзнаку „выдатна“, а па астатніх прадметах (рысаванне, чарчэнне, спевы, музыка, фізкультура) адзнаку не ніжэй „добра“—прадставіць права паступлення ў вышэйшую школу без уступных экзаменаў, што асобна павінна быць адзначана ў атэстаце.

Аддзелу школ ЦК ВКП(б) сумесна з наркаматамі асветы распрацаваць і прадставіць на зацверджанне СНК СССР адзіны для СССР узор атэстата і пераводнага пасведчання (на розных нацыянальных мовах).

8. Устанавіць у школах наступныя пяць ступеней ацэнкі паспяховасці вучняў (адзнакі): 1) вельмі дрэнна, 2) дрэнна, 3) пасрэдна, 4) добра і 5) выдатна.

Даручыць аддзелу школ ЦК ВКП(б) з прыцягненнем наркомаў асветы саюзных рэспублік распрацаваць абавязковыя для ўсіх школ СССР нормы ацэнкі паспяховасці вучняў з тым, каб адзін і той-жа ўзровень ведаў аднолькава ацэньваўся ва ўсіх школах.

9. Устанавіць, што права выключэння вучня за асобыя праступкі прадастаўляецца раённым ці гарадскім аддзелам народнай асветы па матываванаму прадстаўленню дырэктара (загадчыка) школы. Прыём выключаных вучняў у школу рабіць у звычайным парадку.

10. Абавязаць наркаматы асветы саюзных рэспублік арганізаваць у буйных гарадах, у першую чаргу ў Маскве, Ленінградзе, Харкаве і Кіеве, у 1935—1936 вучэбным годзе спецыяльныя школы з асобым рэжымам для дэфектыўных дзяцей і тых вучняў, якія сістэматычна парушаюць школьную дысцыпліну, дэзарганізуюць вучэбную работу і робяць адмоўны ўплыў сваімі антыграмадскімі паводзінамі на астатніх вучняў. Наркаматам асветы саюзных рэспублік выпрацаваць інструкцыю аб пераводзе такіх вучняў у гэтыя школы.

11. Дазволіць спецыяльныя іспыты за VII і X класы для асоб, якія не вучацца ў школе, але жадаюць атрымаць атэстат аб сканчэнні няпоўнай сярэдняй ці сярэдняй школы (экстэрнат). Наркаматам асветы саюзных рэспублік распрацаваць палажэнне аб экстэрнаце.

## II. Аб статуце школы і правілах паводзін вучняў.

1. Даручыць камісіі ў складзе тт. Воліна (старшыня), Бубнова, Затонскага і Чарнушэвіча, з прыцягненнем практычных работнікаў школ, распрацаваць і ўнесці на зацвярджэнне СНК СССР не пазней 1 студзеня 1936 года праект статута для кожнага тыпу школ.

Статут павінен насіць катэгарычны і зусім абавязковы характар як для настаўнікаў, так і для вучняў.

Статут павінен быць асноўным дакументам, які вызначае мэту і задачы школы кожнага тыпу, арганізацыйную структуру школы, правы і абавязкі адміністрацыі школы, педагогаў і школьных арганізацый, а таксама цвёрда ўстанаўляе вучэбны рэжым і асновы ўнутранага распарадку ў школе і правілы паводзін вучняў у школе і па-за ёю.

2 У аснову правіл паводзін вучняў палажыць строгае і свядомае захаванне дысцыпліны, ветлівыя адносіны да выкладчыкаў, таварышоў і старшых, прывіццё культурных навыкаў, беражлівыя адносіны да школьнай і грамадскай маёмасці, а таксама меры рашучай барацьбы з праяўленнямі хуліганства і антыграмадскімі ўчынкамі сярод дзяцей.

Наркаматам асветы саюзных і аўтаномных рэспублік устанавіць і ўвесці ва ўсіх школах адзіны тып вучнёўскага білета (на роднай мове), з уключэннем у яго асноўных правіл паводзін вучняў. Дырэктарам (загадчыкам) школ завесці асабістую справу на кожнага вучня з моманта паступлення ў школу і да яе сканчэння.

3. Устанавіць адзіную форму адзежы для вучняў пачатковай, няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школы, увёўшы адзіную форму, пачынаючы з 1936 г., у першую чаргу ў школах Масквы, Ленінграда, Кіева, Харкава і Менска.

***

Совет Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) прапануюць наркаматам асветы і іх мясцовым органам паставіць у якасці важнейшай задачы інспектаванне і арганізацыю сістэматычнага апаратыўнага кантролю над становішчам і работай школы, правяраючы, як на справе рэалізуюцца рашэнні партыі і ўрада аб школе.

Старшыня Совета Народных Камісараў СССР В. МОЛАТАЎ.

Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) І. СТАЛІН.

Масква, Крэмль.
3 верасня 1935 года.

## Галоўнейшыя памылкі ў выкладанні гісторыі

Л. Г. Брандт.

Выкладанне грамадзянскай гісторыі з'яўляецца адным з найбольш вузкіх месц нашай школы. Яшчэ нельга сцвярджаць, што пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) „Аб выкладанні грамадзянскай гісторыі ў сярэдняй школе" ад 16-га мая 1934 г. ужо поўнасцю праведзена ў жыццё. Сярэдняя школа Беларусі ў гэтых адносінах не з'яўляецца выключэннем. Гэта пацвярджаецца і вынікамі абследвання выкладання гісторыі ў віцебскіх школах *) і тымі данымі, якія выявіліся на курсах павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў гісторыі, праведзенных у ліпені і ў жніўні г. г. у Віцебскім Педагагічным Інстытуце.

Якія-ж галоўнейшыя памылкі наглядаюцца ў рабоце настаўнікаў-гісторыкаў? Яны могуць быць зведзены да трох асноўных груп: 1) памылкі палітычныя, 2) памылкі фактычныя і 3) памылкі метадычныя.

Першая група памылак, найгоршая і найшкаднейшая, з'яўляецца вынікам таго, што значная частка настаўнікаў-гісторыкаў зусім недастаткова аўладала марксісцка-ленінскай метадалогіяй.

Гэты прабел у галіне метадалогіі прыводзіць многіх настаўнікаў да яўна трацкісцкіх палажэнняў: напр., к сцверджанням, нібы „усе сялянскія паўстанні сярэдневякоўя былі рэакцыйнымі". Характэрна, што калі нам прышлося паставіць перад слухачамі курсаў пытанне, у чым памылка гэтага сцверджання, то толькі нямногія змаглі правільна ацаніць гэту памылку.

Надзвычайна часты памылкі вульгарызатарскага характару. Механіцызм і ідэалізм праяўляюцца часцей за ўсё ў некрытычным палітычна-шкодным сапастаўленні падзей старажытнай і сярэдняй гісторыі з падзеямі совецкай сапраўднасці: так гераізм спартанскага атрада ў Фермапільскім праходзе і цара Леаніда „сапастаўляецца" з гераізмам Чырвонай Арміі, манастырскія гаспадаркі ранняга сярэдневякоўя—з нашымі соўгасамі, барацьба плебеяў з патрыцыямі—з класавай барацьбой сучаснага пролетарыята „Гістарычныя паралелі заўсёды рыскованы"—гэтыя словы т. Сталіна, сказаныя ім у гутарцы з Эмілем Людвігам, павінен засвоіць кожны выкладчык гісторыі, бо гэтыя „паралелі" прыводзяць да скажэння класавай прыроды гістарычных фактаў.

Да групы палітычных памылак трэба далей аднесці ідэалістычныя тлумачэнні ролі асобы ў гісторыі. Так крыжовыя паходы тлумачацца тым, што нібы „купцы падкупілі папу, і ён арганізаваў паход", поспех паходаў Александра Македонскага прыпісваецца яго асабістым якасцям і т. д. Між тым, роля асобы ў гісторыі з прадзельнай чоткасцю абрысована класікамі марксізма—Марксам, Энгельсам, Леніным, Сталіным. У прыватнасці, гэта пытанне атрымала поўнае асвятленне ў гутарках т. Сталіна з Людвігам і Уэлсам.

У пераважнай большасці ўсе гэты палітычныя памылкі з'яўляюцца вынікам недастатковага знаёмства настаўнікаў з матэрыялістычнай дыялектыкай, у рэзультаце чаго яны іншы раз пападаюць у палон к аўтарам буржуазных падручнікаў гісторыі (Віперу, Вінаградаву, Іванову, а іншы раз і к Ілавайскаму); бо гэтымі крыніцамі, дзякуючы наяўнасці ў іх багатага фактычнага матэрыялу, выкладчыкі прымушаны карыстацца, але крытычна асвоіць іх яны ў значнай частцы не ўмеюць.

Другая група памылак—гэта памылкі фактычныя. Даволі часта даюцца няверныя даты, скажаюцца гістарычныя назвы. Нам прышлося ў сувязі з гэтым пачуць арыгінальнае „самаапраўданне" настаўніка, назваўшага Клісфена—Клісфонам. „Хіба адна літара адыгрывае істотную ролю?"—спытаўся гэты працаўнік „букваедства". З гэтымі тэндэнцыямі гістарычнай неахайнасці неабходна весці рашучую барацьбу. Настаўнік—гісторык павінен памятаць, што вернае ізлажэнне гістарычных фактаў гарантыруе правільнае іх асвятленне. Памылкі фактычнага характару часта прыводзяць да такіх кур'ёзаў, як напрыклад, паведамленне аб тым, што „Перыкл раздаваў бясплатна білеты ў кіно".

Нарэшце, метадычныя памылкі. Яны, вядома, у значнай меры абумоўлены недастатковай метадалагічнай падрыхтоўкай настаўніка і слабым веданнем фактычнага матэрыялу. Адсюль—неахайнасць гадавых і рабочых планаў, парушэнне гістарычнай перспектывы, ухіл або ў бок абстрактнага соцыялагізма, або ў бок голага фактызма. Але ёсць і па-

*) Даныя абследвання брыгадай НКА БССР віцебскіх школ вясной гэтага года.

мылкі арганізацыйна-метадычнага характару. Замест жывога і захапляючага апавядання настаўніка—вучняў парой прымушаюць чытаць галосна падручнік. А жывасць выкладання і ўменне захапіць вучня—галоўнае ў методыцы выкладання гісторыі, як гэта падкрэслена у пастанове СНК і ЦК ВКП(б). Не умеюць многія настаўнікі скарыстаць наглядныя дапаможнікі, хоць бы ў выглядзе геаграфічнай карты і маючыхся ў падручніках ілюстрацый. Многія не разумеюць таго, што ўне каардынат часу і прасторы няма гісторыі.

Ёсць настаўнікі, якія самі становяцца ўтупік перад лічэннем вякоў да нашай эры ў адваротным парадку і якія не умеюць растлумачыць вучням ні сістэмы гэтага лічэння, ні ўмоўнасці эры. Паўтарэнне пройдзенага матэрыялу носіць часта характар бессістэмны—з парушэннем храналагічнай перспектывы і ўзаемасувязі гістарычных з'явішч.

Запісы ў вучнёўскіх сшытках далёка не заўсёды правяраюцца і аказваюцца часта бязграматнымі і гістарычна і арфаграфічна.

Размер невялічкага артыкула не дазваляе разабраць усе маючыяся недахопы ў галіне выкладання гісторыі. У далейшых нумарах журнала мы дамо рад канкрэтных указанняў к іх знішчэнню.

Ва ўсякім выпадку перш за ўсё неабходна ўпартая работа настаўніка над павышэннем сваёй кваліфікацыі. Недастаткова для гэтага толькі аднаго наведвання курсаў, семінараў, кансультацый. Неабходна чытаць самому. Мінімальна неабходна сістэматычна чытаць журналы: „Борьба классов", „История в средней школе", „Историк-марксист". У першым за 1935 г. змешчан рад артыкулаў і каштоўнейшых фактычных і метадычных матэрыялаў па курсу старажытнай гісторыі (арт. Мішуліна і Сергеева); у другім дадзен рад гістарычных распрацовак найбольш цяжкіх тэм, як Македонскае заваяванне, Эллінізм, Нідэрландская рэволюцыя, Англія XI—XV в.в. і інш. Вялікае значэнне маюць змешчаныя ў журнале „История в средней школе" стэнаграмы і пратаколы ўрокаў з разборам памылак настаўнікаў. Гэты журнал змяшчае ў апошніх нумарах (№№ 3 і 4 за 1935 г.) матэрыял, каштоўны і патрэбны для настаўнікаў пачатковай школы, як напрыклад, артыкул акад. Нікольскага аб старажытным чалавечым грамадстве і арт. Казловай „Опыт преподавания истории в 3-м классе". У журнале „Историк-марксист" асвятляецца рад метадалагічных праблем у галіне гісторыі.

Рэкамендованыя журналы ў некаторай ступені папоўняць адсутнасць сістэматычных курсаў, асабліва па старажытнай гісторыі. Мы звяртаем увагу выкладчыкаў на серыю артыкулаў праф. Сергеева па гісторыі Рыма, змешчаных у журнале „Классовая борьба".

## Цяжкія дзеці ў масавай школе і формы індывідуальнай работы з імі

**Т. І Агафонаў.**

Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 3 верасня 1935 г. „Аб арганізацыі вучэбнай работы і ўнутраным распарадку ў пачатковай, няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школе абавязвае наркаматы асветы саюзных рэспублік прыступіць да арганізацыі спецыяльных школ „з асобым рэжымам для дэфектыўных дзяцей і тых вучняў, якія сістэматычна парушаюць школьную дысцыпліну, дэзарганізуюць вучэбную работу і робяць адмоўны ўплыў сваімі антыграмадскімі паводзінамі на астатніх вучняў .

У гэтым годзе спецыяльныя школы будуць арганізаваны толькі ў буйнейшых цэнтрах Саюза. Самы перавод дэфектыўных дзяцей у спецыяльныя школы, зразумела, павінен будзе адбывацца толькі пасля таго, як будуць вычарпаны ўсе сродкі выхавання гэтых дзяцей ва ўмовах нармальнай школы.

Пагэтаму пастанова ад 3 верасня не толькі не знімае з парадка дня пытання аб педагагічных мерах уздзейнічання на цяжка выхоўваемых дзяцей ва ўмовах нармальнай школы, але наадварот, надае гэтай справе надзвычайна важнае значэнне.

У гэтым артыкуле мы дамо характарыстыку двух відаў цяжка выхоўваемых дзяцей, найбольш часта сустракаемых у школьнай практыцы, і намецім некаторыя сродкі педагагічнага ўздзейнічання на гэтых дзяцей ва ўмовах нармальнай школы.

Першая форма цяжкасці, якую найбольш легка можна перамагчы, сказваецца ў праяўленні з боку дзяцей такіх учынкаў, якія з'яўляюцца выпадковымі на агульным фоне іх паводзін. Тут мы маем дзяцей недастаткова дысцыплінаваных, дзяцей, выпадкова прытаіўшых рэчы таварышоў, дзяцей, якія праяўляюць ад часу да часу непаседлівасць, упартасць, неахайнасць.

Наступная—другая форма цяжкасці —развіваецца з першай. Шалуны перарастаюць у азарнікоў, непаседы—у бузацёраў, зрыўшчыкаў урока, выпадковыя парушыцелі дысцыпліны—у сістэматычных дэзарганізатараў і т. д. Для гэтага тыпа дзяцей, найбольш запушчаных у педагагічных адносінах, характэрны: злосныя прагулы, адмоўныя адносіны да вучэбнай працы, варожыя адносіны да дзяцей, добра паспяваючых у вучобе і прыкладных у паводзінах, зняважлівыя і высокамерныя адносіны да настаўнікаў, адмоўныя адносіны да мерапрыемстваў, праводзімых школай і т. д. Некаторыя з такіх дзяцей займаюцца крадзяжом, кураць, а часам нават выпіваюць.

Гэтыя вучні, зразумела, патрабуюць з боку выхаваццеля самай сур'ёзнай ўвагі. Але, нажаль, гэта увага часта выражаецца толькі ў бесканечных заўвагах, залішне дзергаючых рабёнка, у вымовах, выкліканнях бацькоў, у лішэнні наведвання кіно і інш. Такія адносіны выхаваццеля тлумачацца адсутнасцю сістэматычнай выхаваўчай работы, аснованай на індывідуальным падыходзе да кожнага асобнага цяжкага рабёнка. У выніку дзеці гэтай катэгорыі пападаюць у кандыдаты на выключэнне, у той час як пры правільна разгорнутай індывідуальнай рабоце яны ўпаўне маглі-б выправіцца ва ўмовах данай-жа школы.

Формы і метады індывідуальнай работы рознастойны, і пры выбары іх трэба выходзіць з асаблівасцей кожнага рабёнка. Мы тут рэкамендуем толькі найбольш праверaныя формы індывідуальнай выхаваўчай работы з дзецьмі ўказаных вышэй катэгорый цяжкасці.

**1. Індывідуальнае шэфства.** Індывідуальнае шэфства лепшых па дысцыпліне і паспяховасці над горшымі павінна быць праведзена выключна ўважліва і удумліва Часцей за усе індывідуальнага шэфства патрабуюць дзеці, якія адзначаюцца няўстойлівасцю сваіх настрояў і слабым супраціўленнем волі другога. Па сваім характэрыялагічным асаблівасцям такія дзеці з аднолькавай лёгкасцю ўспрымаюць і дадатнае і адмоўнае ў сваім акружэнні. Вось гэта і павінна быць адпраўным момантам у арганізацыі шэфства. Нажаль, шэфства часта прымае зусім недапушчальныя, уродлівыя формы: яно часта зводзіцца да слежкі адных за другімі, да ябедніцтва, антаганізму. З такога роду „шэфствам" трэба павесці рашучую барацьбу. Сапраўднае, кіруемае педагогам шэфства павінна прывесці к развіццю ў дзяцей сапраўднага пачуцця таварыства. Трэба імкнуцца, каб гэта таварыства не насіла адбітку чагосці навязанага, ненатуральнага.

Практыка паказала, што шэфства гэтага роду павінна ажыццяўляцца шляхам уключэння падшэфнага ў здаровае таварыскае асяроддзе. Цяжка выхоўваемы рабёнак павінен быць уключан у невялічкі дружны таварыскі калектыў дадатна накіраваных вучняў. Гэта павінна прывесці да разрыву той дружбы, якая раней, на нездаровай аснове, усталявілася між гэтымі цяжка выхоўваемымі і другімі запушчанымі падросткамі. Шэфамі могуць быць не толькі вучні, але і рабочыя ад прымацаванай вытворчасці, бацькі—актывісты школы, педагог, важаты і інш. Гэты шэф павінен наведваць сям'ю падшэфнага, аказваючы яму канкрэтную дапамогу, напрыклад: у арганізацыі кутка для заняткаў дома, у атрыманні кніг з бібліятэкі, у арганізацыі разумных забаў, у дадатковых занятках, у ўцягненні яго ў гурток юных тэхнікаў і т. д. У такой форме шэфства дасягае двух мэт: вучань, маючы канкрэтную дапамогу і ўказанні, атрымліваемыя ў таварыскай форме, падцягваецца і змяняе свае паводзіны; з другога боку, і ў школе і у сям'і змяняюцца к лепшаму адносіны да яго.

2. **Н е а с л а б н а я ў в а г а ц я ж к а в ы х о ў в а е м ы м.** У працэсе штодзённай работы педагог павінен заўсёды памятаць аб цяжкіх дзецях і не выпускаць іх з віду. Але і тут неаслабная ўвага да цяжкіх дзяцей часам прымае ўродлівыя формы і прыводзіць толькі да абвастрэння тых асаблівасцей у паводзінах рабёнка, якія характэрызуюць яго, як цяжка выхоўваемага. Увага да апошняга часта зводзіцца к натацыям, к проціпастаўленню рабёнка таварышам і ўсяму класу Катэгарычна асуджаючы такія паводзіны педагога, мы лічым, што ўвага яго павінна быць накіравана на тое, каб рабёнак не быў занадта доўга прадастаўлен самаму сабе, каб заўсёды стымуляваць яго к рабоце, каб у яго не аставалася на працягу ўрока лішняй мінуты, распа

лагаючай яго адыйсці ад агульнага рабочага настрою. Папутныя заўвагі, вядома, неабходны, але яны павінны рабіцца своечасова і ў меру.

3. Развянчанне „героя". Гэту форму выхаваўчай работы мы лічым мэтазгоднай у найбольш запушчаных выпадках, калі азарство выклікаецца імкненнем заваяваць у тварышоў аўтарытэт, заваяваць назву „парня, якому ўсе ніпачом, які нікога не баіцца". У падобных выпадках заўвагі трэба паставіць настолькі рэзка, каб на паводзіны азарніка была прыцягнута ўвага ўсяго дзіцячага калектыва. У такіх выпадках „геройства" азарніка, яго шутаўскую ролю трэба раскрыць да канца і паказаць яе так, каб паўтарэнне „геройскіх" учынкаў выклікала-б у вучняў не смех і адабрэнне, а наадварот, ганьбаванне і знявагу.

Сярод азарнікоў гэтага тыпу сустракаюцца рэбяты незаўрадныя, ініцыятыўныя: вынаходлівасць і збытак энергіі ў іх у сілу адмоўных уплываў асяроддзя, часта выліваецца ў форму хуліганскіх выхадак. Задача педагога састаіць у тым, каб накіраваць ініцыятыву і энергію, вынаходлівасць такога рабёнка ў бок сапраўднага развіцця яго творчых сіл. Такіх рэбят трэба уцягваць у грамадскую работу, у гурткі тэхнікаў, авіямадэлістаў, у гурткі зацейнікаў і ўсякімі спосабамі паашчраць іх ініцыятыву ў гэтых гуртках.

4. Уключэнне ў грамадскую работу. Практыка школы паказала, што прызначэнне цяжкіх дзяцей на грамадскую работу садзейвічае развіццю ў іх актыўнасці, ініцыятывы і выхоўвае ў іх дысцыпліну, арганізаванасць і пачуццё адказнасці перад дзіцячым калектывам. Гэту форму індывідуальнай работы трэба лічыць вельмі мэтазгоднай у адносінах да большасці цяжкіх дзяцей, але выбар грамадскай работы павінен быць абумоўлен індывідуальнымі асаблівасцямі кожнага з гэтых дзяцей. Акрамя таго, трэба ўлічыць, што цяжкі рабёнак пры малейшай няўдачы можа адмовіцца ад даручанай яму работы і сарваць яе. Таму цяжкім дзецям трэба своечасова аказаць падтрымку саветам, тлумаченнем і практычнай дапамогай.

5. Гутарка. Гутаркай павінны суправаждацца ўсе разабраныя формы інцывідуальнай работы. У сувязі з тым, што методыка правядзення гутаркі з цяжка выхоўваемымі дзецьмі справа даволі складаная, мы і даем ніжэй рад указанняў.

Гутарка павінна дапамагчы вучню правільна зразумець свае паводзіны, яна павінна прымусіць вучня задумацца над вынікамі свайго ўчынка і над неабходнасцю выправіць свае паводзіны. У працэсе гутаркі неабходна закрануць тыя пытанні, якія дадуць магчымасць паўней выявіць індывідуальнасць рабёнка з усімі яго асаблівасцямі, як: інтарэсы рабёнка, перашкоды ў іх рэалізацыі, правядзенне вольнага часу, узаемаадносіны з тварышамі, бацькамі і інш.

Для паспяховага правядзення гутаркі неабходнай умовай з'яўляецца наяўнасць поўнага кантакта паміж рабёнкам і педагогам; таму, гутарку не трэба пачынаць з пытанняў, звязаных з адмоўнымі бакамі паводзін дзяцей. Мэтазгодна пачынаць з пытанняў аб хатніх умовах вучня, аб тым, як ён праводзіць свой вольны час і т. д. У выпадку, калі тое ці іншае пытанне выклікала-б тармажэнне, нежаданне адказваць, не трэба настойваць на гэтых момантах, а перайсці да другіх пытанняў, адзначыўшы пры гэтым для сябе тыя, якія выклікалі адмоўныя рэакцыі, з мэтай высвятлення ў далейшым прычын такога роду рэакцый. Вядучаму гутарку неабходна ведаць зараней характар і ўсе падрабязнасці ўтвораных учынкаў, бо толькі пры гэтай умове з'явіцца магчымасць паставіць пытанне так, каб сам рабёнак у сваіх адказах даваў крытычную ацэнку сваіх паводзін і сам мог бы зрабіць адпаведныя вывады. Аднак пры гэтым не трэба спяшацца выклікаць вучня на поўнае прызнанне сваей віны і абяцанне выправіцца, бо звычайна такія скараспелыя абяцанні носяць павярхоўны характар; рабёнак яшчэ недастаткова глыбока асазнаў свой учынак. Трэба паступова ў працэсе работы падводзіць яго да крытычнай ацэнкі сваіх паводзін.

6. Сувязь з сям'ёй. Нярэдкі выпадкі, калі ўстаноўкі, якія даюцца ў школе, проста ігнаруюцца бацькамі. Таму неабходна правесці сярод бацькоў адпаведную растлумачальную работу. Мы раім педагогу дапамагчы бацькам завесці дзённік наглядання над рабёнкам. У гэты дзённік павінны занасіцца заўвагі як з боку педагога, так і з боку бацькоў; па гэтым заметкам дзённіка павінна праводзіцца адпаведная выхаваўчая работа як у школе, так і дома.

7. Перавод у другія школы. У самых выключных выпадках дапусцімы пераводы ў другія паралель-

ныя класы ці нават у другія школы. Гэтае мерапрыемства можна рэкамендаваць у тых выпадках, калі ў сілу дапушчаных памылак у падыходзе к рабёнку, створаны зусім непрымірымыя адносіны паміж ім і ўсім дзіцячым калектывам, або калі акаляючая абстаноўка не можа даць рабёнку новых моцных стымулаў да змены яго паводзін. Перавод павінен разглядацца, не як спосаб вызвалення педагога ад „неспакойнага элемента“, а як адна з форм індывідуальнай работы з цяжка выхоўваемымі дзецьмі.

У заключэнне трэба агаварыцца, што кожная з пералічаных форм індывідуальнай работы з цяжка выхоўваемымі павінна праводзіцца толькі пасля дэталёвага і ўсебаковага вывучэння рабёнка.

Па-першае, трэба вывучыць характар праяўлення цяжкасці, г. зн., трэба прааналізаваць усе маючыяся скаргі з боку сям'і і школы з мэтай выдзялення асноўных адмоўных бакоў паводзін рабёнка. Па-другое, трэба вывучыць прычыны развіцця цяжкасці. Па-трэцяе, неабходна вывучыць тое дадатнае, што маецца ў грамадска-палітычнай і працоўнай накіраванасці вучня, у яго інтэлектуальнай асаблівасці і т. д.

Ад рэдакцыі. Пытанне аб рабоце з цяжка выхоўваемымі ва ўмовах нармальнай школы мае аграмаднае значэнне. Змяшчаючы артыкул т. Агафонава, рэдакцыя просіць настаўнікаў і бацькоў выказацца па закранутым аўтарам пытанням.

## Асенні збор раздатачнага матэрыялу па курсу заалогії сярэдняй школы

**А. І. Радкевіч**

Настаўнік біёлаг ведае, якое значэнне пры выкладанні прыродазнаўчых навук мае раздатачны матэрыял.

Толькі тады магчыма добра паставіць курс заалогії і батанікі і іншых прыродазнаўчых прадметаў, калі магчыма шырока скарыстаць жывы матэрыял у час дэманстрацый на лекцыях і ў час практычных лабараторных заняткаў. Жывыя аб'екты, маючыяся ў час лекцый пад рукамі ў настаўніка, стымулююць актыўнасць і самаго настаўніка і вучняў.

На вялікі жаль, толькі адзінкі з настаўнікаў у свой час запасаюцца неабходным раздатачным матэрыялам і скарыстоўваюць яго на занятках.

Кожны настаўнік павінен праявіць максімум энергії і, пакуль яшчэ не позна, правесці збор і нарыхтоўку неабходных заалагічных аб'ектаў.

У гэтую справу неабходна ўцягнуць гурток юннатаў, даручыўшы ім догляд у час зімы за тымі жывёламі, якіх магчыма жывымі захаваць у жывым кутку. У дапамогу настаўніку мы і прапануем наступны спіс неабходных пры праходжанні курса заалогії ў 6-7 класах сярэдняй школы — заалагічных аб'ектаў, якія яшчэ магчыма нарыхтаваць на працягу кастрычніка месяца.

Разбіваючы заалагічны матэрыял па раздзелам: прасцейшыя, кішэчна-паласцёвыя і т. д., адзначаюцца месцы знаходжання, спосабы лову і спосабы захоўвання жывёл у жывым кутку і спосабы захоўвання кансерваванага матэрыялу.

### ПРАСЦЕЙШЫЯ

Эўглена зялёная. Можна знайсці па працягу ўсяго кастрычніка ў лужынах, прыдарожных канавах, у гразі і на дарогах. Бяруць у шкляную пасудзіну пробу вады, або жыжу з дарогі і заліваюць дажджавой вадой. Трымаюць у шклянай пасудзіне на святле. Магчыма культываваць на жэлаціне і ў наступным растворы салей з пептонам і цукрам: пептона — 0,5 гр., лімоннай к-ты 0,2 гр., вінаграднага цукра 0,5 гр., $MgSO_4$ — 0,02 гр $KH_2PO_4$ — 0,05 гр., вады — 100 гр. Вада павінна быць або дажджавая свежая, або дыстыляваная. Культуру эўглен можна кансерваваць у $70^0$ спірце. Перад работай кроплю гэтай культуры трохі падсушваюць на паветры на прадметным шкле. Разглядаюць пад мікраскопам сухой.

Вольвакс. Можна знайсці ў першай палове кастрычніка ў прудках, лужынах, падзёрнутых зялёным налётам, пакрытых раскай, а таксама на мелкіх месцах каля берагу. Для Віцебска — прудок каля Ветінстытута, па дарозе к цагельнаму заводу № 5, прудкі па Суражскаму тракту, Пролетарская Слабада, каля фанернага завода. Збіраюць

таксама, як і эўглену. Захоўваюць у плоскіх чашках з узроўнем вады не больш як 7-10 см. Культываваць магчыма таксама, як і эўглену. Кансерваваць у гліцэрыне або ў 70° спірце. Перад работай наносяць на прадметнае шкло кроплю кансерваванай культуры і дабаўляюць кроплю вады; пакрываюць пакроўным шклом і разглядаюць пад мікраскопам.

Амеба. Знаходзяць у невялічкіх лужынах і прудках, на дне якіх многа рэшткаў гніючых раслін. Вакол Віцебска амебу можна знайсці там-жа, дзе і вольвакс. Заткнуўшы шкляную трубку пальцам, апускаюць яе на дно і такім чынам выбіраюць са дна глей. Для захавання амебы ў жывым відзе кладуць выбраныя са дна вадазбора глей у банку, кідаюць туды кавалкі дрэва і апаўшае лісце, заліваюць на 5 см. вадой з таго-ж водазбора, працадзіўшы ваду праз марлю, каб удаліць дробных рачкоў і колавратак. Спосабы нарыхтоўкі прэпаратаў амебы паказан у кнізе Аверынцава „Практическая зоология" ч. I.

Ракушкавыя амебы: арцелла і дыфлюгія. Знаходзяць у канавах на тарфяных распрацоўках, на тарфяных балотах. Вакол Віцебска—тарфяное балота на Пескавацiку і каля Пролетарскай Слабады. Кладуць у банку трохі мху і заліваюць вадой з таго-ж водазбору. У жывым відзе захоўваецца таксама як і амеба.

Парамецыя. Збіраюць там-жа, дзе і амебу і такім-жа спосабам. Для нарыхтоўкі парамецыі ў жывым відзе дзён за 40 да заняткаў нарыхтоўваюць яе культуру; для гэтага заварваюць сена, як чай, астуджаны навар фільтруюць і наліваюць у чыстыя склянкі; праз некалькі дзён навар мутнее, дзякуючы развіўшымся ў ім бактэрыям; пасля гэтага на гэты настой засяваюць кроплямі ваду, у якой заўважаны былі інфузорыі. Спосаб нарыхтоўкі прэпаратаў гл. у Аверынцава, ч. I.

Сувойка. Сустракаецца ў выглядзе белага налёту на плаваючых галінках і на вадзяных раслінах у прудках і лужынах. Нарыхтоўваецца таксама як і парамецыя.

## КІШЭЧНА-ПАЛАСЦЁВЫЯ

Гідра. Знаходзіцца ў завадзях рачушак, заросшых эладэяй, куўшынкай, рдэстам, у прудках, пакрытых раскай, і лужынах, на апушках лесу. Сустракаецца на ніжнім баку лісцяў куўшынкі, рдэста, эладэі і інш.; маюць выгляд жаўтаватабураватых або зеленаватых камочкаў. Захоўваюць у жывым відзе ў плоскіх шкляных пасудзінах з пясчаным дном з пасаджанай эладэяй. Кормяць дафніямі або дробнымі кавалкамі лічынкі матыля. Для захавання гідры ў мёртвым відзе яе кладуць на гадзіннікавае шкло, ў кроплю вады і чакаюць пакуль яна не расправіцца; тады яе паліваюць неразбаўленым фармалінам і трымаюць у ім мінут 20; потым гідру прамываюць і пераносяць у 70° спірт.

## ЧЭРВІ

Двуротка печанёвая. Паразіт печані і жоўчных пратокаў аўцы, быка, свінні і т. д. Можна знайсці ў печані хворай жывёлы, заражонай паразітам. Такую печань можна атрымаць на бойні. Кансервуецца у 4 % фармаліне або ў 70° спірце.

Аскарыда конская. Паразіт тонкіх кішок каня. Атрымаць можна на бойні, або ў ветэрынарнай лячэбніцы. Захоўваецца таксама, як і двуротка.

Дажджавы чарвяк. Сустракаецца ўсюды ў сырой зямлі. Рэкамендуецца тое месца, дзе збіраюцца капаць чарвей, за некалькі дзён да капання паліць адварам бульбы. Акрамя таго буйныя экземпляры чарвей можна сабраць у цеплы вечар, асвятляючы месца збору ліхтаром. У жывым відзе чарвей трымаюць у вялікіх гліняных гаршках, або ў шчыльных скрынках. Чарвей трэба пакрыць зямлёй і апаўшым лісцем і паліваць раз у тыдзень адварам бульбы. Зімой трымаць у памяшканні з тэмпературай 3—4° С.

Піяўкі. Ложнаконскія, нефеліс і клепсіны. Сустракаюцца ў азерах, прудах, завадзях рэк. Вакол Віцебска—у завадзях Віцьбы, за лодачнай станцыяй „Дынамо", а таксама ў прудзе саду «Суботнік». Піявак ловяць пры дапамозе сеткі, якую водзяць па дну і зарасцям раслін. Іх можна знайсці таксама на затонуўшых у вадзе палках, дошках, камнях і на ніжняй паверхні лістоў куўшынкі. Захаваць можна ў шкляных пасудзінах у вадзе, якая не садзержыць вапны; лепш—у вадзе з таго водазбору, дзе злоўлены піяўкі. На дно акварыўма трэба паклясці пясок у перамежку з таўчоным вугалем.

## МАЛЮСКІ

Бяззубка, перлавіца. Бяззубкі сустракаюцца на дне азёр, прудоў з глеістым дном. Вакол Віцебска—у азёрах Себяхі і Летцы. Перлавіцы

сустракаюцца ў рэчках каля берагоў. Бяззубку ловяць пры дапамозе сеткі Трымаць у банках з пясчаным дном. Ваду мяняць не менш, чым праз 2 дні. Расліны ў банках можна трымаць толькі плаваючыя. Не дазваляць на вадзе з'яўляцца плесені. Каб закансерваваць бяззубак, трэба іх палажыць на суткі ў цёплую кіпячоную ваду; калі яны выцягнуць ногі і не будуць рэагаваць на раздражэнні, то іх пераносяць у 70° спірт.

Прудавік. Катушка. Лужанка. Сустракаюцца ўсюды ў мелкіх стаячых водазборах. Катушка і прудавік — на раслінах, лужанка—пераважна ў глеістых водазборах, на дне. Вакол Віцебска ў завадзях Віцьбы за лодачнай станцыяй і ў прудзе саду „Суботнік“. Ловяць сеткай. Трымаюць у шкляных пасудзінах у вадзе са стаячых водазбораў. На дно кладуць пясок. Не трымаць на сонцы. Корм—водаросты, салата.

## ЧЛЕНІСТАНОГІЯ

Рак рачны. Сустракаецца ў рэчках, азёрах з гліністымі абрывістымі берагамі. Вакол Віцебска—возера Шэвінка, Замасточча. Ловяць пры дапамозе асобых сетак, „рачань“, з прыманкай на лягушку, дробную рыбу або бяззубку. У акварыумах, дзе захоўваюць ракаў, трэба часта мяняць ваду. Глыбіня вады 7—8 см. Дно густа засадзіць раслінамі. Акварыум не ставіць на сонца. Карміць чарвямі і кавалкамі мяса. Кансерваваць можна ў 70° спірце, або ў насычаным саляным растворы пры ўмове, калі аб'ём гэтага раствора будзе ў тры разы перавышаць аб'ём ракаў.

Дафніі, цыклопы. Сустракаюцца ў мелкіх лужынах і прудках з глеістым дном, зарослых раслінамі, асабліва раскай. Цыклопа магчыма здабываць нават і зімой з-пад лёду. Ловяць—чэрпаючы ваду пасудзінай з водазбору, дзе заўважаны гэтыя рачкі. Калі патрэбна многа дафній, то працэджваюць ваду праз марлю. Дафніі зіму выжываюць рэдка. Цыклопаў можна развадзіць наступным чынам. На дно шклянай пасудзіны насыпаюць пясок, змяшаўшы яго з галубіным або кароўім паметам (1 чайная ложка памёту на 5 вёдзер вады). На пясок кладуць трошкі глею з таго водазбору, дзе былі заўважаны цыклопы. Заліваюць вадой і пускаюць цыклопаў. Каб нарыхтаваць дафній на корм жывёлам, працэджваюць ваду з дафніямі праз фільтравальную паперу; потым паперу з застаўшыміся на ёй дафніямі распраўляюць і сушаць. Паперкі з дафніямі складваюцца ў скрынку.

Павук вадзяны. Водзіцца у балоцістых месцах, у стаячых, або ў ціха цякучых водазборах, багатых расліннасцю, асабліва раскай. Ловяць сеткай, праводзячы ёю па водным раслінам. Трымаюць у банках з вадой, узятай з месца лову. Дно засаджваюць раслінамі Ваду мяняюць толькі тады, калі яна сапсуецца і то толькі часткамі. Корм—лічынкі матыля.

Лічынкі стракоз. Сустракаюцца ў водазборах са стаячай або надта ціха цякучай вадой. Некаторыя віды трымаюцца на раслінах, а другія ў глеістым дне. Ловяць сеткай. Трымаюць у плоскіх, неглыбокіх пасудзінах. Буйныя экземляры аддзяляюць ад дробных. Корм—дробныя кавалкі дажджавога чарвяка або мяса. Гэтыя кавалачкі падводзяць да маскі лічынкі, зашчаміўшы іх ў палачку. Захоўваюцца ў 70° спірце, або засушанымі.

Лічынкі матыля. Сустракаюцца ў вадаёмах з глеістым дном. Вакол Віцебска—пруд каля Ветінстытута, па дарозе к цагельнаму заводу № 5, у завадзях Віцьбы за лодачнай станцыяй. Ловяць вядром; набіраюць у вядро глею са дна вадаёма, дзе заўважаны лічынкі, і ставяць на цёплае месца (на печку). Матыль усплывае і яго вылаўліваюць. Трымаюць у плоскіх неглыбокіх пасудзінах з узроўнем вады не больш 10 см. На дно кладуць глей. Можна таксама захаваць паміж пластамі сырога мху і нават у мокрых трапках. Сачыць, каб не было мёртвых.

Скарпіёніца. Сустракаецца ў вадаёмах з стаячай вадой, у мелкай прыбрэжнай паласе, у глеістым дне паміж раслінамі, вакол Віцебска—там-жа, дзе і лічынка матыля. Ловяць таксама, як і лічынак стракоз. Трымаюць у плоскіх пасудзінах з дном, густа засаджаным раслінамі. Пасудзіну пакрываюць марляй або шклом. Кормяць дробнымі жывёламі або кавалачкамі мяса з канца расшчэпленай палачкі. Кансерваваць можна у 70° спірце, або засушваюць і захоўваюць у карабачках з ватай.

Плавунец. Сустракаецца ўсюды ў стаячых водазборах. Вакол Віцебска—у прудзе каля Ветінстытута, па дарозе на цагельны завод № 5, у завадзях Віцьбы, у прудзе саду „Суботнік“, у прудзе каля р. Лучосы. Ловяць сеткай. Трымаюць у пасудзіне з пясчаным дном і насаджанымі раслінамі. Ваду мяняюць не менш як 3 разы у тыдзень.

Банку пакрываюць шклом, пакінуўшы шчыліну для доступу паветры. Кормяць чарвякамі і кавалачкамі мяса. Кансервуюць у 40° спірце у дастатковай колькасці для ускрыцця.

Лічынкі ручэйніка—(шыцікі). Сустракаюцца на дне і на вадзяных раслінах прыбярэжнай мелкай паласы азёр, прудоў і рачушак. Ловяць сеткай. Захоўваюцца ў неглыбокай пасудзіне. На дно кладуць пясок. Ваду мяняюць праз 2 дні. Кормяць лісцямі вадзяных раслін, салата і лазы. Зрэдка дабаўляюць у корм кавалачкі чарвякоў. Мэтазгодна засушыць чэхлікі (домікі) ручэйніка і скласці калекцыю такіх чэхлікаў, розных па форме і па матэрыялу.

Гусеніцы капусніцы. Сустракаюцца на качнах капусты ўсюды на ніжнім баку лісцяў капусты і грыжанкі. Захоўваюцца ў банках з дном, пакрытым пяском на 3 см. У маленькую шкляначку, якая закапваецца у пясок, кладзецца ліст капусты. Банкі завязваюцца марляй. У пачатку кастрычніка гусеніца акукліваецца. З кукалкі ў студзені—лютым вылупіцца матыль. Гусеніц можна закансерваваць у 70° спірце.

Соўка капусная. Сустракаецца там жа. Шукаць гусеніц трэба у сярэдзіне качна. Прызнакам прысутнасці гусеніцы з'яўляецца маса памёту ў назухах лісцяў качна. Захоўваецца таксама, як і гусеніца капусніцы. Акукляецца, зарыўшыся у пясок. Кансервуецца у 70° спірце.

Жужаліца. Сустракаецца пад палениямі, камушкамі, дошкамі, доўгі час ляжаўшымі на зямлі, ловяць рукамі, уважліва аглядаючы ўсе ляжачыя на зямлі прадметы. Трымаюць у плоскай пасудзіне, на дно якой кладуць гліну, зверху пакрытую пяском. У дно саджаюць якую-небудзь расліну і ўкапваюць маленькую шклянку для вады. На дно таксама кладуць камні. Кормяць гусеніцамі, слізнямі, кавалачкамі мяса. Кансервуюць у сухім відзе як і матылеў.

РЫБЫ

Карась. Водзіцца ў цяністых прудках, паросшых вадзянымі раслінамі. Вакол Віцебска—у прудку каля Ветэрынарнага інстытута і ў прудку па беразе Віцьбы каля цагельных заводаў па Суражскаму тракту. Ловяць сеткай, праводзячы ёю па дну, паросшаму раслінамі і цінай. Лавіць можна таксама і карзінай. На дно карзіны кладуць камні і кавалачкі паджаранага на ільняным масле чорнага хлеба для прыманкі. Зверху карзіну завязваюць трапкай з дыркай для праходу карасям. За ноч у карзінку набіраецца многа карасей. Вылаўленых карасей трымаюць у банках з дном, пакрытым пяском таўшчынёй у 3 см. У дно засаджваюць расліны. Кормяць матылём, кавалкамі дажджавога чарвя і грэчневай крупой.

Плотка. Водзіцца ў рэках, рачушках і азёрах. Вакол Віцебска—у Дзвіне, Віцьбе, Лучосе. Ловяць сеткай. Трымаюць таксама, як і карасей. Карміць трэба той самай ежай, што і карасей і акрамя таго яшчэ водарасцямі.

Пескар. Водзіцца ў рачушках на неглыбокіх месцах. Ловяць сеткай. Пескары добра ловяцца ў бутэльку наступным спосабам: бяруць бутэльку светлага шкла з надта вогнутым дном і ў сярэдзіне дна цвіком прабіваюць дзірку дыяметрам у паўтары см. У бутэльку кладуць чарвякоў, горлышка затыкаюць пробкай. Бутэльку напаўняюць вадой і кладуць на дно ракі. Бывае так, што праз некалькі хвілін бутэлька поўнасцю набіваецца пескарамі. Жывых пескарэй трымаюць таксама, як і карасей.

Лягушка. Лягушак можна лавіць да самых замаразкаў. Іх можна знайсці па берагам водазбораў забіўшыміся ў пяшчэркі, якія ўтвораны падмытымі дзернавінамі. Ловяць рукамі або сачком. Трымаць лягушак можна ў вадзе, ў акварыумах, банках, балеях. Глыбіня вады павінна быць не больш як 10 см, так, каб вада толькі прыкрывала лягушак. Мяняць ваду трэба не менш, чым праз 2 дні. Хворых лягушак з распухшымі канцавінамі трэба зараз жа адсаджваць. Карміць лягушак непатрэбна. Трымаць пры тэмпературы не звыш 4° С.



Здана у друк 1/X 1935 г., падпісана да друку 2/X 1935 г. Друкав. арк. 0,75. Знакаў ў аркушы 51080
Гарліт № 1581. Друк. „Комінтэрн". Зак. № 4138—800 экз.